

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 11 (79) 24 — 30 сакавіка 1994 г. Кошт 50 руб.

## Шаноўнае спадарства! Грамадзяне незалежнай Беларусі!

Рэдакцыя газеты «Выбар» мае гонар і задавальненне павіншаваць усіх неабыякавых, усіх свядомых прыхільнікаў нацыянальнага Адраджэння са святам 25 сакавіка—76-мі ўгодкамі ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Жадаем усім моцнага здароўя, невычэрпнага аптымізму, згуртаванасці вакол адзінай нацыянальнай ідэі. Гістарычная будучыня за намі. Шчасця! Поспехаў! Перамогі!

Жыве Беларусь!



*На скрыжаванні думак*

## Станіслаў Шушкевіч катэгарычна супраць прапановы БНФ

«Вас всех здесь надо расстрелять!» Такія словы некалькі разоў выкрыквала зычным голасам знешне прывабная, ужо не вельмі маладая жанчына ў зале філармоніі на сустрэчы са Станіславам Шушкевічам.

Не ведаю, чуў гэта Шушкевіч, ці не, але той, хто знаходзіўся ў цэнтры залы, можа гэта пацвердзіць.

Некалькі дзён таму жанчына гэта, адна з актывістак Віцебскай філіі Народнага руху Беларусі, сядзела побач з Аляксандрам Лукашэнкам на такой жа сустрэчы, толькі ў другім памяшканні. Там яна паводзіла сябе як гаспадыня, запрасіўшая да сябе гасцей. А тут нібыта ў яе «чорт усяліўся», дарэчы, як і ў астатніх народарухаўцаў, запоўніўшых праходы ў зале.

Праўда, Станіслаў Шушкевіч не вельмі разгубіўся. Вопытны лектар, не дарэмна ж прафесар, які не адзін раз набіў сабе шышак за два гады вядзення паседжанняў Вярхоўнага Савета Беларусі, ён дзе лагічнай завершанасцю сваёй думкі, дзе жартамі, даволі хутка супакоіў «гарачую» аўдыторыю. Гэта пад сілу не кожнаму палітыку. Так можа Зянон Пазьняк, бадай, больш ніхто. Крыкунам засталося альбо слухаць, альбо асабліва непрымірымым, як тая жанчына,—пакінуць залу.

Дзіўная рэч: чаму гэтыя людзі так ненавідзяць экс-кіраўнікоў?

Хутчэй за ўсё лютая нянавісць да зменаў, якія адбыліся беспаваротна ў часы знаходжання ва ўладзе гэтых кіраўнікоў, нават калі змены ад іх не залежаць, засцілае такім людзям вочы і паралізуе розум. Яны на ўвесь свет клянуць Гарбачова, даўно ўжо сышоўшага з палітычнай арэны, а зараз вось Шушкевіча, які шмат чым нагадвае першага і апошняга прэзідэнта СССР.

Нават віцебскія міліцыянеры, якія па загаду ўладаў горада гатовы «сцерці ў парашок» мясцовых дэмакратаў, затрымаўшы аднаго з іх пры наклейванні на слупы аб'яваў аб прыездзе ў Віцебск Шушкевіча, даведаўшыся, у чым справа, пасмяяліся і адпусцілі «парушальніка».

Відаць, для тых жа ўладаў былы старшыня Беларускага «парламента» не так ужо і небяспечны.

Пацверджаннем гэтага можа быць і тое, што Станіслаў Шушкевіч крытыкаваў намер БНФ, калі той прыйдзе да ўлады, увесці закон аб люстрацыях (забараніць займаць дзяржаўныя пасады партыйным кіраўнікам, якія імі былі на 19 жніўня 1991 года). Ён лічыць, што не трэба такіх ахвяр у імя перамогі, і таму супраць гэтага. Ён гатовы дапускаць да дзяржаўнай улады тых, хто натхняе маральна і падтрымлівае матэрыяльна народарухаўцаў, якія заклікаюць «расстраляць усіх», і таго ж Шушкевіча.

Больш чым лаяльная пазіцыя.

Няма сэнсу судзіць тую крыклівую жанчыну толькі за тое, што яна гатова сама і заклікае іншых да расправы над «адступнікамі». Тут пакуль што больш фарсу, чым дзеянняў.

Але ж нельга дапускаць да ўлады тых, хто выхоўвае ў такіх людзей лютую нянавісць да іншай думкі і гатовы і любы момант укласці ў іх рукі зброю, каб знішчыць сваіх палітычных апанентаў, як гэта было на працягу 75-ці гадоў Савецкай улады. Таму і прапануе БНФ увесці закон аб люстрацыях для такіх асобаў.

У. ПЛЕШЧАНКА.



Ля ганка філармоніі падчас сустрэчы з С. Шушкевічам. Фота А. Лакоткі.

## ЗАЯВА

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ РАДЫ ПАТРЫЯТЫЧНАГА РУХУ «БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ ВАЙСКОЎЦАЎ»

### Аб антыдзяржаўнай дзейнасьці

З кожным месяцам усё больш паглыбляецца жахлівае зьбядненьне нашага народа. Людзі даядаюць старыя запасы, што будзе далей, ніхто ня ведае. У тым ліку і ўрад, які толькі і можа, што, кажучы словамі сп. Кебіча, стаяць на скрыжаваньні. У спадзяваньні пратрымацца за чужы кошт ужо чаго толькі не выдумлялі: калектыўная абарона, мытны саюз і, нарэшце, рублёвая зона. Але чарговы цуд, які нам тры месяцы абяцалі "на наступным тыдні", лопнуў, як мыльная бурбалка.

Тады некаторыя прадстаўнікі ўладных колаў пачалі дзейнасьць на карысьць уваходжаньня Беларусі ў склад Расеі, нягледзячы на тое, што гэта ўцягне беларусаў у вайну ў Сярэдняй Азіі і Закаўказьзі. У спадзяваньні захаваць свае хлебныя месцы гэтыя людзі перайшлі вельмі небясьпечную мяжу, за якой проста бязглуздая палітыка робіцца палітыкай дзяржаўнай здрады, злачынствам, за якое няма шкадаваньня і тэрміну даўнасьці.

Незалежнасьць—найвялікшая каштоўнасьць кожнага народу. Бараніць незалежнасьць са зброяй у руках—канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна. Незьлічоная колькасьць беларусаў ва ўсе часы не шкадавала ў барацьбе за свабоду Бацькаўшчыны ні сваіх жыцьцяў, ні, тым больш, жыцьцяў ворагаў і здраднікаў.

Мы ведаем імёны тых, хто вядзе кампанію па скасаваньню палітычнай незалежнасьці Беларусі, хто гаворыць: «мы спынім заводы, і беларусы самі пабягуць у Расею». Мы лічым сваім маральным абавязкам засьцерагчы гэтых людзей ад вельмі небясьпечных наступстваў такіх дзеяньняў, якія могуць зрабіцца трагічнымі перш за ўсё асабіста для іх.

## Выступленне народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Сяргея Навумчыка (Віцебская-Чыгуначная акруга № 181, апазіцыя БНФ) на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 18 сакавіка 1994 года

**Грыб М. І.: Слова прадастаўляецца Навумчыку Сяргею Іосіфавічу. Віцебская-Чыгуначная акруга нумар 181. Падрыхтавацца Зяленіну.**

**Навумчык С. І.** Пачну з таго, што яшчэ ў лютым я звярнуўся з дэпутацкім запытам да Старшыні Вярхоўнага Савета Мячэслава Грыба і міністра ўнутраных спраў Данько наконт парушэння правоў чалавека ў Віцебску і ў Мінску з боку міліцэйскіх работнікаў. На жаль, ні ад Вас, Мячэслаў Іванавіч, ні ад Данько адказу на запыт няма, хоць законам вызначаны тэрмін—дзесяць дзён. Я настойваю на адказе, бо лічу, што ўцягваць людзей у форме ў палітыку небяспечная справа.

У канцы студзеня гэтага года мне з групай дэпутатаў апазіцыі на чале з Зянонам Пазьняком пашчасціла браць удзел у сустрэчы з жыхарамі Віцебска ў памяшканні тэатра імя Якуба Коласа. Кажу «пашчасціла», бо прыемна было зноў пераканацца, што віцябляне добра разумеюць тыя складаныя працэсы, якія адбываюцца на Беларусі. Нягледзячы на спробу камуністаў сарваць сустрэчу, зала, як гэта заўсёды бывае на спатканнях з Пазьняком, была перапоўненая. Мяркую, што ў той дзень многія мае землякі пераканаліся, што вобраз Пазьняка, створаны камуністычнай прапагандай, не мае нічога агульнага з гэтым чалавекам. Праз некалькі дзён галоўны рэдактар Віцебскага абласнога радыё Царэнка даў у эфір рэпартаж з той сустрэчы і, амаль без скарачэнняў,—выступ Зянона Пазьняка. Здавалася б, журналіст сумленна выканаў свой прафесійны абавязак—прадаставіў людзям магчымасць атрымаць інфармацыю з першых вуснаў. Але якраз гэта і занепакоіла Віцебскае начальства. Ды мала сказаць—занепакоіла. Царэнка быў выкліканы ў кабінет намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Цацохі, дзе прысутнічаў і старшыня тэлерадыёкамітэта Пратасевіч. Сэнс учыненай журналісту прачуханкі быў наступны: у Віцебскім тэлерадыёэфіры ўсе павінна быць ціха. Выходзіць так--ніякіх Пазьнякоў. Пра Кебіча—можна. Пра Лукашэнку—можна. Пра камуністаў добрыя словы—можна. І як мага болей. А пра Народны Фронт лепш не ўзгадваць. Сёння, наколькі ведаю, у Віцебску павінен выступаць Шушкевіч—паглядзім, як адлюструе гэта мясцовае радыё.

Ганебны выпадак у Віцебску пацвярджае, што ігнараванне прынцыпаў свабоды слова ў нашай краіне робіцца часткай дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі. Апазіцыя Народнага Фронту не мае гарантаванага эфірнага часу і не можа звярнуцца да людзей без цэнзурных абмежаванняў.

Толькі не кажыце, што тэлегледачам надакучыла палітыка. Людзі стаміліся ад вашай палітыкі, вынікі якой яны вымушаны спажываць штодня. Нашыя запыты да Старшыні тэлерадыёкампаніі застаюцца без адказу, але я з трыбуны Вярхоўнага Савета прапаную вам, спадар Кебіч і спадар Грыб: давайце знойдзем эфірны час і сядзем побач—пяць чалавек ад вас і пяць чалавек ад нас. Наша эканамічная праграма—і ваша праграма. Нашыя прапановы па выхаду з крызісу—і вашыя прапановы. Думаю, што ў Віцебску і ў Мінску людзі дастаткова разумныя, каб параўнаць тое і другое і зрабіць адпаведныя вывады.

Дзякуй за ўвагу.

**Ад рэдакцыі:** Як стала вядома, журналіст абласнога радыё Г. Царэнка часткова пазбаўлены прэміяльных за люты. І хоць аргументавана гэта іншай прычынай, чамусьці пакаранне адбылося адразу ўслед за з'яўленнем З. Пазьняка ў Віцебскім эфіры.

## Паведамленьне Сойму БНФ «Адраджэньне»

Сойм БНФ «Адраджэньне» з занепакоенасьцю адзначае, што ў нашай краіне адбываецца ўзурпацыя ўлады ўрадаваю бюракратычнаю намэнклятураю.

У Беларусі адкрыта парушаюцца законы, правы і свабоды чалавека, расьце пагроза страты суверэнітэту. Аднаўляецца адміністрацыйная мадэль эканомікі, непарыўна зьвязаная зь недэмакратычнымі спосабамі кіраваньня. Антырынкавымі, дырэктыўнымі рашэньнямі ўрад Кебіча спрабуе за кошт прадпрыемстваў разьлічыцца за сваю аднабокую прарасейскую палітыку.

Фактычна ўведзена неаб'яўленая цэнзура, адбываецца націск на апазыцыйную прэсу і незалежных журналістаў. Пачаліся судовыя расправы над актывістамі рабочага руху ў Менску, Салігорску, Вілейцы, іншых гарадох.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што ў Беларусі адрадзіўся і ўзмацняецца проціпраўны, «паліцэйскі» рэжым.

Фронт лічыць неабходным у такой сытуацыі рабіць усе факты парушэньня дэмакратычных нормаў, свабодаў і правоў чалавека здабыткам беларускай і сусьветнай грамадзкай думкі.

**12 сакавіка 1994 г.**
**г. Менск**

## Коратка аб розным

Пасля выпуску газеты вялікім накладам рэдакцыю пачала правяраць падатковая інспекцыя Чыгуначнага раёна. Дарэчы, папярэдняя праверка адбылася зусім нядаўна ў лістападзе мінулага года. На пытанне: «Чаму так часта?» пачулі : "Далі даручэнне!"

***

У нядзелю, 20 сакавіка на пляцу Волі адбылося святкаванне 76-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якое ладзілі Першаймайская Рада БНФ, арганізацыйная група Патрыятычнага руху БЗВ і клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары».

## Прыгавор пакінуты без змен

16 сакавіка Віцебскі абласны суд разгледзеў касацыйныя скаргі, якія напісалі трое міліцыянераў, прыгавораныя раней Аршанскім гарадскім судом да розных тэрмінаў зняволення за забойства студэнта Віцебскага медінстытута Сашы Баранава. Яны сябе вінаватымі не лічаць («выконвалі службовы абавязак»). Бацька загінуўшага лічыць занадта мяккім прыгавор тым, хто адняў жыццё ў яго сына.

Далейшы разбор справы адбудзецца ў Вярхоўным Судзе, таму што аблсуд скаргі абодвух бакоў не задаволіў, пакінуўшы прыгавор без змен.

У. ЖЫГУЛОЎ.

*На скрыжаванні думак*

# Ці магчыма двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку?

Прыезд Шушкевіча ў Віцебск высвеціў шэраг нябачных дагэтуль палітычных з'яў, аналіз якіх прыводзіць да самых нечаканых высноў і прагнозаў.

Самае галоўнае, што Шушкевіч—адна з моцных палітычных фігур, якая валодае рэальным прэзідэнцкім патэнцыялам. Да гэтай высновы я прыйшоў на падставе аналізу шэрагу арганізацыйных момантаў, з якіх складваўся візіт.

1. Шушкевіч карыстаецца падтрымкай камуністычнай большасці ВС РБ і вельмі неабходны ёй у выглядзе прэзідэнцкай дэмакратычнай «шырмы».

**Доказ:** На працягу года яны «здымалі» яго, ствараючы імідж «АХВЯРЫ» і таленавіта дамалявалі гэты імідж, «зняўшы» за «асабістую нясціпласць», пры гэтым пакінулі на пасадах «зуброў» карупцыі. Народ «заплакаў», зашкадаваў «АХВЯРУ», а Шушкевіч атрымаў вольны час для передвыбарнай барацьбы.

2. Шушкевіч карыстаецца падтрымкай «ПАРТЫІ ЎЛАДЫ» савецкіх чыноўнікаў усіх узроўняў.

**Доказ:** у Барысаве яны забаранілі яму ўезд у горад, потым забаранілі выступаць перад рабочымі, і тыя сабралі каля 500 подпісаў за дазвол выступіць, потым «падклалі» бомбу ў вялізнай зале, дзе ён выступаў, і ўжо быў момант, калі жанчыны і дзеці першымі пацягнуліся да выхаду, але Шушкевіч заклікаў усіх **заставацца на сваіх месцах** (вельмі сімвалічная фраза!), мінёры пасля сустрэчы праверылі зал і нават склалі акт: «мин нет». У Брэсце агенты «партыі ўлады» парэзалі Шушкевічу колы машыны...

Усё гэта, ды яшчэ праклёны мясцовых чыноўнікаў, услед падаваемыя ў прэсе, цудоўна ўзмацняюць імідж «АХВЯРЫ».

У Віцебску Шушкевічу ўлады «вмазали» слабовата—толькі залу далі невялікую ў параўнанні з Лукашэнкам, чым з ліхвой кампенсавалі выпады калгасніка-антыкарупцыянера. Але тут яны, відавочна, баяліся перабраць, бо ведалі, што яшчэ будзе звышмоцная падтрымка Шушкевічу з боку мясцовых камуністаў-славяністаў.

3. Шушкевіч у Віцебску карыстаецца вельмі моцнай падтрымкай усіх левых.

**Доказ:** Ганак абласной філармоніі, дзе рыхтавалася сустрэча з Шушкевічам, яны «ўпрыгожылі» плакатамі адпаведнага зместу і сваёй прысутнасцю. З аўтобусаў, што праязджалі па плошчы, было бачна, што ў будынку філармоніі адбываецца вельмі незвычайная падзея. Агульны сэнс плакатаў быў такі: Шушкевіч вельмі магутны славянін. Да рускіх гэта даводзілася тэкстам накшталт «развалiў СССР», што ў любога з рускім менталітэтам атаясамліваецца з былінная тройкай асілкаў... Для беларусаў моц Шушкевіча даводзілася тэкстам пра зубра, якога трэба далоў. У свой час некалькі стагоддзяў назад моц, прыгажосць зубра ўславіў М. Гусоўскі. І вось камуністы надалі гэтай тэме другое дыханне з палітычным адценнем. Такім чынам, яны стварылі Шушкевічу імідж «асілка».

4. Шушкевіч карыстаецца падтрымкай міліцыі, у прыватнасці, падпалкоўніка Тапунова і палкоўніка Ільніцкага.

**Доказ:** Як толькі Шушкевіч увайшоў у залу, левыя, якія запоўнілі ўсе праходы, пачалі свістаць, крычаць. Разам з апладысментамі прыхільнікаў было ўражанне, што ў зал на парашуце спусцілася Вікторыя Руфо...

Калі Шушкевіч падышоў да мікрафона, то некалькі хвілін яму не давалі гаварыць. Левыя пачалі выкрыкваць розныя абразы, міліцыянты моўчкі, не рэагуючы, глядзелі, як дзесяткі людзей хуліганілі. А Шушкевіч спакойна ад мікрафона пачаў выступленне. Прыпыні міліцыянты разгул хуліганаў, Шушкевіч выглядаў бы наменклатурным сатрапам. А так ён зноў набываў імідж «ахвяры», і ў той жа час хамства хуліганаў падкрэслівала яго інтэлігентнасць. Калі праз паўгадзіны «хуліганы-ветэраны» суцішыліся, нават банальнасці Шушкевіча суправаджаліся авацыямі. Малайчына, выстаяў, прадэманстраваў вытрымку, інтэлігентнасць і гумар. На «далоў зубра!» адрэагаваў так: «Не ведаў, што ў Віцебску так шмат браканьераў—паляванне на зубраў жа забаронена!» (Авацыя).

Так што прадстаўнікі наменклатурнай міліцыі (кіраваў Тапуноў) бліскуча дапамаглі Шушкевічу.

5. Шушкевіч карыстаецца моцнай падтрымкай БНФ.

**Доказ:** Калі на самым пачатку сустрэчы ў зале «хулиганствующие старички» кінуліся да сцэны, на іх шляху сталі статныя хлопцы з бел-чырвона-белымі павязкамі. Яны вельмі карэктна, тактоўна прыпынілі прыхільнікаў Шушкевіча, прапанавалі напісаць ім запіскі і потым адносілі гэтыя запіскі ў прэзідыум.

Пад час выступлення, відавочна, каб не вельмі выразна выказваць свае сувязі з БНФ, Шушкевіч заявіў, што закон аб люстрацыях, які прапануе БНФ, гэта закон аб «принесении в жертву коммунистов»*.

Ён некалькі разоў паўтарыў гэты тэзіс, усяляк адмежаваўшыся ад яго і БНФ. Часам мне рабілася жудасна ад гэтага крыважэрнага закону.

Замаскіраваўся.

6. Шушкевічу ўдалося стварыць моцны блок дэмакратычных сілаў з кіраўніцтвам АДПБ (у Віцебску).

**Доказ:** У Віцебск Шушкевіча запрашаў ад АДПБ Журакоўскі. Ён жа напярэдадні патэлефанаваў Хамайдзе і папярэдзіў: «Не лезьце ў нашы справы, мы справімся самі». Седзячы ў прэзідыуме, ён спакойна пазіраў на шабаш камуністаў-славяністаў, на тое, як адзін з лідэраў мясцовай філіі БНФ з павязкаю кіраваў устанаўленнем у зале парадку. Я парадаваўся за аргталент лідэра АДПБ Журакоўскага: падпарадкаваць сабе БНФ—амаль немагчымая задача!

Відавочна, пры зборы подпісаў за вылучэнне Шушкевіча ў прэзідэнты ў Віцебскай філіі АДПБ праблем не будзе. Ногі сяброў БНФ зробяць сваю справу, як было пад час збору подпісаў за рэферэндум.

**У. ПАДГОЛ.**

*Як паведаміў у прыватнай размове аўтару артыкула Зянон Пазьняк, закон аб люстрацыях (забарона займаць кіруючую пасаду ў дзяржаўных структурах .былым кіраўнікам кампартыі) ўжо рэалізаваны ў Чэхіі, Славакіі і іншых краінах.




Ля ганка філармоніі падчас сустрэчы з С. Шушкевічам. Фота А. Лакоткі.

## ПАБЕГЛІ АД "ЗУБРА" БРАКАНЬЕРЫ...

З істэрычнага ляманту групы хуліганячых праціўнікаў дэмакратыі і пачалася 18 сакавіка сустрэча С. Шушкевіча з грамадзянамі Віцебска. Асабліва надрывалася пажылая кабета, якая намагалася настроіць аўдыторыю супраць «здрадніка» СССР, «белавежскага зубра» і г. д. Нічога з гэтага не выйшла. Асноўнай процілегласцю такім паводзінам былі спакой і ўпэўненасць нядаўняга старшыні Вярхоўнага Савета, яго дасціпныя жарты накшталт: «У нас паляванне на зуброў забаронена».

Убачыўшы, што публіка на баку госця, гарлапаны на чале з памянутай кабетай пакінулі залу абласной філармоніі. Яны маглі б і раней парадаваць прысутных сваім адступленнем, калі б ім у гэтым дапамагла міліцыя. Аднак, афіцэры МУС, якія сталі побач з крыкунамі, на іх паводзіны не рэагавалі, і ўражанне было такое, што гэтыя афіцэры ахоўваюць не парадак, але менавіта тых, хто яго парушае.

Істэрыка ніколі не даводзіла да дабра і справе не дапаможа. «Шчаслiва жывуць тыя народы,—сказаў С. Шушкевіч,--якія змаглі назаўжды пакончыць з войнамі і рэвалюцыямі».

Людзі ўжо разумеюць, з якой мэтай так шалёна накідвалася на Шушкевіча наменклатурная частка парламента, дзеля чаго спатрэбілася адстаўка старшыні Вярхоўнага Савета. Суайчыннікі бачаць, што прагнаўшы яго, кіраўніцтва рэспублікі зусім развязала сабе рукі: з яшчэ большай нахабнасцю працягвае курс на збядненне працоўных і пенсіянераў, на ператварэнне Беларусі ў калонію, у лагер таннай рабочай сілы. Шушкевіча ў прэзідыуме парламенту няма, а цэны як раслі, так і растуць, «зайчык» «худзее» на вачах, «рублёвая зона» аказалася чарговым саўмінаўскім блефам.

Аб усім гэтым думалі, гаварылі паміж сабой, ставілі пытанні ў запісках жыхары Віцебска ў час сустрэчы з Шушкевічам у зале філармоніі.

**У. ФЕДАРОВІЧ.**

# «ЧОРНАЯ КНІГА» ЗЛАЧЫНСТВАЎ «СОВЕТСКОЙ ВЛАСТИ» НА ВІЦЕБШЧЫНЕ»

**Семінар «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй» працягваецца ў форме надрукавання «ЧОРНАЙ КНІГІ» злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне» і абмеркавання матэрыялаў «ЧОРНАЙ КНІГІ» як на паседжаннях Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» (пляц Волі), так і ў памяшканні рэдакцыі газеты «Выбар» (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх). Запрашаюцца ўсе жадаючыя з супрацьлеглымі поглядамі і інтарэсамі прыняць удзел у абмеркаванні. (Пачатак у №№ 3—10 1994 г.).**

## Хто стварае злачынную нацыю?

*Рэцэнзія на геніяльны твор*

Гэтае пытанне з'явілася пасля азнакамлення з геніяльным творам вядомага паэта А. Шпыркова. Шэдэўр «Якую нацыю мы ствараем?» («Віцебскі рабочы» 16.03.94) прысвечаны савецкай уладзе. Лічу, што вышэйназваны твор ёсць гістарычны помнік паэтычнай культуры савецкай эпохі. Прычым, такой каштоўнасці, што дзяржава павінна ўзяць яго пад ахову, уключыць у праграмы ўсіх навучальных устаноў для дасканалага вывучэння. Я са студэнтамі на практычных занятках ужо раблю гэта.

Для тых, хто не чытаў, коратка перакажу змест. Шэдэўр прысвечаны «самай галоўнай з усіх галін чалавечага існавання, пра якую мы да самага апошняга часу ці то не хацелі гаварыць, ці то не надавалі ёй статусу першаснасці,—піша Шпыркоў,—...як сведчыць статыстыка, адабралі не толькі самыя папулярныя цацкі ў дзяўчынак і хлопчыкаў, а падсунулі ім новыя, даволі рызыкоўныя і небяспечныя... У нашай вобласці выявілася тэндэнцыя да росту злачыннасці сярод непаўналетніх. У час вучобы падлеткі займаюцца не толькі камп'ютэрнымі, а і сексуальнымі, алкагольнымі, мардабойнымі і іншымі небяспечнымі «гульнямі».

У шэдэўры аўтар апісвае паседжанне камісіі па справах непаўналетніх у штабе савецкай улады, дзе генералы і палкаводцы (намеснік старшыні аблвыканкама У. Цацоха, намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама Н. Феактыстаў, кіраўнік абл. упраўлення адукацыі Н. Гірса) разгледзелі «не толькі вынікі мінулага года, вызначылі задачы на сёлетні... А і адчуваўся глыбокі роздум над праблемамі, над нашым сучасным і будучым».

У гэтым «глыбокім роздуме» А. Шпыркоў для шэдэўра ўзяў такую прычыну росту злачыннасці, якая «ўкаранялася ў настаўніцкім асяроддзі—шкодная ідэя: вучыць толькі таго, хто хоча, вучыць—і толькі».

Свой геніяльны твор аўтар заключае словамі палкаводца савецкай адукацыі Н. Гірсы: «Педагагічныя калектывы сядзяць у абароне, чагосьці чакаюць, а неабходна наступленне».

Не прэтэндуючы на абсалютнае раскрыццё таямніц геніяльнага шэдэўра А. Шпыркова, паспрабую выдзеліць некалькі істотных яго рысаў. Тым больш, што вядома: у геніяльным творы кожны бачыць нешта сваё, адметнае. Так, напрыклад, у творы Леанарда да Вінчы «Мона Ліза» сёння бачаць твар мужчыны.

Геніяльнасць шэдэўра А. Шпыркова ў спалучэнні вельмі незвычайных супярэчнасцяў. Ён сцвярджае, што прычыны росту злачыннасці непаўналетніх—гэта тое, што, як сведчыць статыстыка, папулярныя цацкі адабралі, а падсунулі новыя, небяспечныя... Тая ж статыстыка сведчыць, што ў Савецкай краіне ў дзяцей былі самыя мілітарызаваныя ў свеце цацкі (зброя) і гульні (у вайну). Дзеці Саветаў гулялі, «забіваючы адно аднаго». І калі гэтыя цацкі ў іх адабралі, пачаўся рост злачыннасці. Але ж адабраўшы муляжы зброі, ім у рукі далі камп'ютэрныя войны, дзе забойства здзяйсняецца, але, у адрозненне ад натуральнай гульні, не перажываецца! І хто зрабіў такую замену? Савецкая ўлада. Менавіта пры яе панаванні, на яе тэрыторыі, пад яе кантролем адбываецца гэтае пераўзбраенне. Але, як геніяльны аўтар, Шпыркоў не прыходзіць да гэтае высновы, рыхтуючы чытачу лагічны парадокс.

Шпыркоў канстатуе: «...злачынныя групы ствараюцца прама ў школах». Школы, як вядома, у нас САВЕЦКІЯ, дэ-юрэ і дэ-факта належаць Саветам. Вось як савецкая ўлада клапоціцца аб падтрыманні сваёй дыктатуры. Са школы (і нават з дзіцячага садка) рыхтуе злачынцаў, каб трымаць насельніцтва ў страху і тым самым абгрунтоўваць наяўнасць рэпрэсіўнага апарату для захавання свайго статус-кво. Геніяльная разгадка злачыннай прыроды савецкай улады!

Стварыўшы ў школах злачынныя групы, «адкрыта пачынаюць кіраваць намі культ багацця і насілля, секс, якія прапагандуюцца сродкамі інфармацыі, ахайванне нашых традыцый, гісторыі, усяго мінулага». Геніяльна! Сродкі масавай інфармацыі ў нас ЦАЛКАМ дзяржаўныя, САВЕЦКІЯ. Вось і яшчэ адна сутнасная рыса злачыннай савецкай улады.

Раскрыўшы злачынную тайну савецкай улады, Шпыркоў (вернемся да пачатку яго артыкула) канстатаваў, што аб гэтай тайне «ці то не хацелі гаварыць, ці то не надавалі ёй статусу першаснасці». І тое, і другое—і ўсё геніяльна задумана. Спачатку забіць мільёны бацькоў, зрабіць беспрытульнымі мільёны дзяцей, а потым змагацца з беспрытульнасцю ў дзіцячых калоніях. Спачатку пастраляць або выслаць мільёны «ворагаў народа», а потым іх дзяцей аддаць на выхаванне садыстам і злачынцам. Спачатку спаіць бацькоў і маці, а праз іх—дзетак, а потым дзесяцігоддзямі змагацца з дзіцячым алкагалізмам!

А зараз падыходзім да «сердцевины» геніяльнага твора. Яна, як усё геніяльнае, проста вырашана Шпырковым: «... у сённяшняй завірусе бязладдзя і хаосу, бадай, адзіны бастыён, які яшчэ не здаецца і спрабуе неяк кіраваць, усяляючы пэўную надзею і веру ў людзей,—гэта Савецкая ўлада». Гэта ж трэба ТАК геніяльна зрабіць і ТАК геніяльна напісаць! Пры абсалютнай УЛАДЗЕ САВЕТАЎ утварыць завіруху бязладдзя і хаосу! Прадставіць гэтую злачынную ўладу як бастыён, які яшчэ не здаецца і спрабуе неяк кіраваць! Ды яшчэ спрабуе ўсяляць надзею і веру ў людзей!

Але і гэта яшчэ не ўся адметнасць шэдэўру. Хто б, вы думалі, «мае самы непасрэдны і даволі шкодны ўплыў на вырашэнне ўзнятай праблемы», г. зн. на юнае пакаленне? Для тых, хто не чытаў геніяльнага твору А. Шпыркова, стаўлю скрыню гарэлкі: не здагадаецеся! Такім чынам, правільны адказ: на вырашэнне праблемы дзіцячай злачыннасці «даволі шкодны ўплыў» робіць (калі стаіце, сядзьце!), па А. Шпыркову... семінар «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёю». Брава, А. Шпыркоў! Брава, «Віцебскі рабочы»! А можа, магнітныя буры ва ўсім вінаваты?

Такое немагчыма паўтараць. Такое трэба толькі вывучаць і прапагандаваць! Такім шэдэўрам саўковай ідэалогіі можна толькі захапляцца!

Ні ў якім разе не прэтэндуючы на нешта адметнае, побач з карыфеямі савецкай журналістыкі (паэзіі існуючага ладу) дазволю сабе сціплую заўвагу. Злачынная геніяльнасць савецкай улады і ў тым, што яна выхавала такіх геніяў, як Алесь Шпыркоў—аўтар неўміручага твору.

**У. ПАДГОЛ.**

**Паважаныя чытачы!** Дзякуючы таленавітым даследчыкам «Віцебскага рабочага», наш семінар набывае побач з фактылагічнымі матэрыялы аналітычнага кшталту.

Зараз мы прапануем вам вытрымкі з публікацыі ў газеце «Рэспубліка» за 15.03.94. Змест іх адпавядае тэме «ЧОРНАЙ КНІГІ». А па-другое, у іх ёсць, відавочна, адказ і на загадку А. Шпыркова пра спадара ваўка, з'едзенае ім цялятка і пракуратуру.

**"...По мнению первого заместителя Генерального прокурора республики Владимира Кондратьева, многие сотрудники отделов по борьбе с экономической преступностью вместо кропотливой работы по изобличению взяточников в органах власти гоняются за количественными показателями и занимаются теми мелкими мздоимцами, что находятся, можно сказать, под руками. Например, в Витебской области из 55 фактов взяток, выявленных в прошлом году, 35 составили покушения на дачу взяток самим работникам милиции гражданами, задержанными за различные правонарушения.**

**В республике за прошлый год привлечено к уголовной ответственности за взяточничество всего лишь 196 человек. Каждое четвертое дело было прекращено. А в Гомельской области в суды направлено только восемь дел, причем шесть из них впоследствии прекращено.**

СТРУКТУРЫ ВЛАСТИ ПОРАЖЕНЫ КОРРУПЦИЕЙ, НЕ БЕЗ ОСНОВАНИЙ СЧИТАЕТ ВЛАДИМИР КОНДРАТЬЕВ...".

З выступлення па рэсп. радыё супрацоўніка пракуратуры РБ:: «За 1993 г. пракуратурай унесена 300 пратэстаў на незаконныя дзеянні кіраўнікоў савецкай улады. Гэта на 100 больш, чым у папярэднім 1992 годзе». Як бачыце, чытачы, тэндэнцыя ў крымінальных захворваннях дзяцей і кіраўнікоў савецкай улады аднолькавая. Відавочна, гэтыя тэндэнцыі ў чарговым шэдэўры камуністычнай прэсы будуць зноў прыпісаны нашаму семінару. Магчыма, будзе дадзены і рэцэпт: «семінарыстаў» разам з дзеткамі перастраляць.

На наш жа погляд, трэба знішчыць злачынную савецкую ўладу.

Рэдкалектыў «Чорнай кнігі» выказвае шчырую падзяку А. Шпыркову і газеце «Віцебскі рабочы» за ідэю і пэўную падрыхтоўчую працу над яшчэ адной старонкай «Чорнай кнігі».

(Працяг будзе)

У. Падгол, У. Плешчанка, Б. Хамайда, дэпутат аблсавета Б. Мацвееў, У. Жыгулоў, К. Баландаў.

# «Трэці Рым, Трэці Рэйх, Трэцяя Русь?»

Сутнасць аб'яднання настолькі разнародных, на першы погляд, палітычных сіл у шэрагах расійскай апазіцыі і яе дакладнай копіі на Беларусі (ці, што таксама падобна, яе мясцовага філіяла) — "Народного движения Белоруссии" дагэтуль мае толькі вонкавае азначэнне, у форме прыдуманай у Расіі назвы—"красно-коричневые". Прыхільнікі гэтага аб'яднання з «карычневага» яго крыла, нібы апраўдваючыся, на першы план высоўваюць чыста тактычныя мэты: «...сегодня у Славянского Собора с коммунистами одна цель—единое могучее государство». Міхась Замскі ў «ЛіМе» называе іх «камуністамі-мутантамі», а «Народная газета» цытуе парыжскую «Фігаро»: «Пацярпеўшая паражэнне ў Расіі апазіцыя ўяўляе сабой дзіўную туманную пляму», у якой зліліся сілы, паталагічна няздольныя змірыцца з гібеллю савецкай імперыі... Сярод гэтых апазіцыянераў ёсць такія, што і самі ўжо дакладна не ведаюць, з'яўляюцца яны яшчэ камуністамі ці ўжо ператварыліся ў фашыстаў». Апошняе пісалася адразу пасля кастрычніцкага путчу, цяпер жа ў Расіі памяняліся дэкарацыі на палітычнай сцэне (дарэчы, на карысць гістарычнай традыцыі) і расстаноўка дзеючых асоб (салідных нацыянал-патрыётаў зусім не бачна за Жырыноўскім, а камуніст Зюганаў на выбарах збіраў галасы асобна). Застаецца толькі чакаць, калі палітычная практыка і заканамернасці ідэйнага развіцця ўзновяць пераварваны хірургічным умяшаннем з боку прэзідэнта працэс зрастання.

Падставы для такога зрастання ёсць, і ў першую чаргу ў агульных момантах светапогляду. У мэтах абгрунтавання гэтай сваёй высновы буду цытаваць «историко-публицистическое исследование» нейкага Алега Платонава пад назвай «Русская цивилизация», твор вельмі тыповы для свайго кшталту, да таго ж цалкам надрукаваны ў спецыяльным выпуску вядомага сваім накірункам «Русского вестника», № 18—20 за гэты год. Адпаведных жа палажэнняў камуністычнай тэорыі цытаваць не стану, бо імі і так забіваліся галовы ўсіх без выключэння жыхароў краіны, пачынаючы з дзіцячага ўзросту. Яны настолькі добра вядомыя, што сталі ледзь ці не ладам мыслення, і ў гэтым—галоўная шкода ад камуністычнага выхавання. Такім чынам, прыгадвайце і параўноўвайце:

«Большинство русских крестьян не знало частной собственности на землю. Отсюда древний социалистический идеал крестьянства, враждебно относившегося к частной собственности на землю». (С. 10).

«В народном сознании понятие закон противопоставляется понятию правда и справедливость... Правда—это нравственные принципы, по которым живет народ, закон—это нечто навязанное ему со стороны и не всегда справедливое для него. Закон, сочиненный правящим классом для простых людей,—средство их утеснения. Он провоцирует грех, обиду и преступления... «Никогда русский человек не верил и не будет верить в возможности устроения жизни на юридических началах» (Л. Тихомиров). Этим он отличается от западного человека». (С. 9).

«Россия имела свою самобытную модель народавластия. Если на Западе его основой был индивидуализм (требовавший равных прав в конкурентной борьбе), то в России—коллективизм крестьянской общины (с полным равноправием всех членов внутри нее)... Главным условием свободы русского человека была соборность... Свобода носила коллективный характер и определялась принадлежностью человека к самоуправляющейся общине, которая создавала условия для свободы и самостоятельного развития каждого отдельного человека... (С. 17).

«Русский народ,—писал К. Аксаков,—государствовать (т. е. принимать участие в управлении государством—О. П.) не хочет... Он хочет оставить для себя не политическую, свою внутреннюю общественную жизнь, свои обычаи, свой быт,—жизнь мирную духа... Не ища свободы политической, он ищет свободы нравственной, свободы духа, свободы общественной,—народной жизни внутри себя...» (С. 7).

«Западная цивилизация порождает самое худшее рабство—она делает людей рабами вещей, заставляя их служить вещам, жить ради вещей». (С. 3.).

«Человек не должен стремиться ни к богатству, ни к накопительству, человек должен довольствоваться малым». (С. 9).

Што ж будзе вынікам гэтага зрастання? Дакладны адказ можа даць, канешне, толькі само жыццё, але некаторыя найбольш выразныя тэндэнцыі гэтага працэсу даюць падставы для аналогій і прагнозаў.

Найбольш яскравы факт супольніцтва неакамуністаў і расейскіх фашыстаў падчас крывавых падзей у Маскве стаў, дзякуючы сваёй нагляднасці, вельмі папулярным сродкам кампраметацыі расейскай апазіцыі. Сапраўды, свет такога яшчэ не бачыў: пасівелы камуніст-ветэран (можа быць, нават з фашыстоўскім асколкам у грудзях) і малады, трэніраваны і перакананы фашыст змагаліся са зброяй у руках не проста супраць аднаго ворага, а ішлі ў атаку ў адных шэрагах, плячо ў плячо. Нават калі экстрэмісцкія фашыстоўскія групоўкі з'яўляюцца выключэннем, ёсць падставы меркаваць , што іхняе аб'яднанне з камуністамі не было выпадковым і абавязкова павінна атрымаць адпраўнае далейшае развіццё, асабліва пасля такога кшталту падзей, як разгром узброенага выступлення, калі змены ў тэорыі і практыцы набываюць найбольш хуткі і глыбокі характар.

"Лідэры айчынных ультраправых груповак пастаянна ў сваіх выступленнях называюць Расію радзімай фашызму. І, трэба адзначыць, у нейкай ступені гэта справядліва. Не трэба паднімаць вочы ў неба і ўсклікаць:" Гэтага не можа быць! Краіна, якая разграміла фашызм, не магла яго нарадзіць!» Яшчэ як магла»,—так пачынае свой артыкул расейскі журналіст Г. Жоржаў у газеце «Собеседник» № 7, за люты 1993 г. Артыкул называецца «Восемь концов фашизма или Россия в черных рубашках» і ўтрымлівае цікавыя звесткі аб мінулым і сучасным становішчы расейскага фашызму, што робіць яго надзвычай карысным для нашага чытача і вымагае досыць падрабязнага яго цытавання. (Пераклад з расейскай мой—В. С.):

«У Расіі падобныя арганізацыі існавалі аж з 1905 года («Черная сотня», «Союз архангела Михаила») і не толькі паводзінамі, але і сваім абліччам (чорная кашуля, рэмень з партупеяй і начышчаныя боты) вельмі нагадвалі свах будучых заходнееўрапейскіх і цяперашніх расійскіх калег.

Не грэбавалі і свастыкай у якасці значка ў простых баевікоў або заколкі для гальштука ў лідэраў. Праўда, свастыка тады не мела злавеснага крывавага арэола, яе выкарыстоўваў шмат хто з палітыкаў.

Пасля 1917 года расейскі фашызм быў практычна знішчаны. Ён адрадзіўся ў 1934 годзе сярод расейскіх белаэмігрантаў у Харбіне, акупаваным японскім войскам. Тады было створана адразу некалькі фашыстоўскіх партый. Адна з іх, пад кіраўніцтвам нейкага Ванснацкага, нават мела штаб-кватэру ў ЗША і выдавала там часопіс «Фашыст». Партыі мелі ў сваім складзе таксама юнацкія, жаночыя і дзіцячыя арганізацыі. Эмблема—двухгаловы арол са свастыкай.

Масавы спачатку, да другой сусветнай вайны расейскі фашыстоўскі рух пачаў занепадаць і, нягледзячы на фінансавае падштурхоўванне з боку японцаў, хутка ўвогуле зачах. Рэшткі расейскіх фашыстаў былі знішчаныя ў 1945—1946 гадах у сталінскіх засценках. На гэтым скончыўся другі этап расейскага фашызму.

Яго адраджэнне адбылося толькі ў канцы сямідзесятых, калі на Сусветным фашыстоўскім кангрэсе ў Іспаніі з'явілася расейская дэлегацыя. Далей, у 1985 годзе быў заснаваны нацыянальна-патрыятычны фронт «Памяць», які адкрыў новую старонку ў гісторыі расейскага фашызму.

Тагачасная наша інтэлігенцыя была парадкам напалоханая першымі выступленнямі людзей у чорных кашулях (каб яны толькі ведалі, што будзе гадоў праз шэсць!), і ўсе лічылі, што страшней за «Память» звера няма. КДБ, які адправіў у месцы не так аддаленыя ў 1988 годзе некалькі груповак піцерскіх прыхільнікаў Гітлера (яны вывесілі 9 мая з вокнаў нацысцкія сцягі), айчынных фашыстоўцаў не бачыў ва ўпор.

Ішоў час, «Память» ніхто не чапаў, і некаторыя яе члены пачалі адкрыта праяўляць незадавальненне з нагоды надзвычай памяркоўнага (як ім здавалася) курса арганізацыі, які выражаўся ў шматлікіх малебнах і мітынгах, праклёнах у адрас сусветнага сіянізму.

У жніўні 1990 года ў «Памяти» адбыўся раскол, і выйшаўшая з яе група «непримиримых» праз два месяцы сфарміравала сваю кантору—"Русское национальное единство". Новыя заступнікі за Расію ўзяліся за справу дастаткова шпарка—вельмі хутка, усяго праз два гады, гэтая арганізацыя ўвайшла ў «Русский национальный собор» Сцерлігава, а яе лідэр Аляксандр Баркашоў—у прэзідыум думы РНС. Баевікі «Единства» сталі лейб-гвардыяй «Собора», забяспечваючы ахову яго канферэнцый і «патаемных вячэраў». Форма, падобная на эсэсаўскую, вітанні пад'ыманнем правай рукі і павязкі са свастыкай, відаць, не бянтэжылі барацьбітоў за расейскую нацыянальную ідэю.

Болей таго, Баркашоў заяўляе, што саборны лад дзяржавы быў яго асабістым вынаходніцтвам, якое Сцерлігаў з Зюганавым усяго толькі капіравалі. У той час як былыя калегі Баркашова па «Памяти» кватаруюць у старым як свет будынку, на які плюнь—разваліцца, офіс РНЕ размяшчаецца не дзе-небудзь, а ў будынку Савета народных дэпутатаў Свярдлоўскага раёна на Пятроўцы.

Арганізацыя яўна не бедная—яна можа дазволіць сабе не толькі арэнду такога офіса, але і выпуск уласнай газеты «Русский порядок» накладам у 88 тысяч асобнікаў...

Сімволіка арганізацыі што трэба—васьміканцовая зорка з уплеценай у яе свастыкай. Балазе свастыка, як удакладнілі для мяне, гэта арыйскі знак, і ўжо паўсюль даказана, што расейцы паходзяць... ад арыйцаў.

Шкада, Гітлер гэтага не чуе.

...Дарэчы, самога Адольфа Алаізавіча Баркашоў вельмі любіць і паважае. «Гітлер—неблагі хлопец,—выказваецца ён,—прычынай другой сусветнай вайны былі зусім не дамаганні Адольфа, а яго перашкоды яўрэйскай фінансавай алігархіі. Вайну развязалі Англія і ЗША, каб не дапусціць нацыянальнага адраджэння нямецкага народа».

...Далей Аляксандр Пятровіч дзеліцца меркаваннямі наконт свайго будучага прыхода да ўлады: «Сцяг дзяржавы Расія (у межах 1914 года плюс Аляска) будзе чорна-жоўта-белым. Герб—свастыка. ...Моцная аўтарытарная ўлада. Апазіцыя павінна быць знішчана і забаронены мітынгі—гэта вымушаная мера. Мітынгі ў абарону новага парадку будуць дазволены, але толькі ў выхадны ад працы час. (...) Трэба будзе ўвесці смяротнае пакаранне практычна на ўсе віды злачынстваў і доўгі турэмны тэрмін за прастытуцыю. Далей мы забаронім ужыванне ў размове замежных слоў, праслухоўванне запісаў замежных рок-груп і прагляд заходніх відэафільмаў. На першым часе да непаслухмяных будуць прымяняцца жорсткія меры. (...) З краін СНД мы вывезем усіх расейцаў, а потым задушым гэтыя дзяржавы эканамічнай блакадай».

Далей расейскі журналіст падае наступную, досыць, падрабязную інфармацыю аб дзейнасці іншых нацысцкіх арганізацый ў Расіі: «Национально-социальный союз», заснаваны ў 1990 годзе, кіраўнік—Віктар Якушаў, 10 тыс. членаў (па ўласных падліках), герб—імперскі арол са свастыкай, дзяржаўны ідэал—манархія;

«Российская национал-социалистическая рабочая партия германской ориентации», 11 чалавек, большасць—школьнікі, герб—імперскі арол са свастыкай, мэта—узнаўленне Германскай імперыі ў межах на 1 лістапада 1941 года;

«Вселенская олигархия», лідэр—Максім Шалашоў, уключае «Саюз сталіністаў» (!), колькасць па ўласных падліках—2,5 тыс. чалавек;

«Народно-республиканская партия России», кіраўнік—Мікалай Лысенка, герб—двухгаловы арол імперскага тыпу з мячом, утварыла «Русский национальный легион» кольскасцю ў некалькі тысяч баевікоў, якія атрымліваюць баявы вопыт у Прыднястроўі, Пауднёвай Асеціі і былой Югаславіі, у лютым 1993 г. «Легион» быў выдзелены ў асобную структуру пасля пагрозы распусціць партыю з боку Генпракуратуры РФ (за стварэнне ўзброенных фарміраванняў). НРПР уздзелу ў кастрычніцкіх падзеях не прымала, спрабавала ўдзельнічаць у снежаньскіх выбарах, але не набрала галасоў для рэгістрацыі. Па інфармацыі «Комсомольской правды» (№ 215, 18.10.93), у НРПР на першым плане барацьба не з «сусветным сіянізмам» (як у іншых нацыянал-патрыётаў), а з «асобамі каўказскай нацыянальнасці», у ліпені 1993 г. НРПР гучна выйшла з «Фронта национального спасения» («ФНС—сатэлітная арганізацыя КП РФ»), кіраўніцтва партыі мае вялікую сімпатыю і шчыльныя кантакты з Мікалаем Паўлавым (тым, які прыязджаў на «Конгресс народа Белоруссии»), колькасць—11,5 тыс. чалавек, газета партыі з рэкламай «Русского национального легиона» распаўсюджвалася на камуністычна-славянскіх мерапрыемствах у Менску.

У Санкт-Пецярбургу дзейнічаюць «Национал-социалистская партия России» і «Народно-социальная партия». Кіраўнік апошняй нехта Андрэеў нядаўна за захоўванне партрэта Гітлера, павязак са свастыкай, нацысцкай і антысеміцкай літаратуры і нашэнне халоднай зброі быў асуджаны аж на паўтара гады ўмоўнага тэрміну з выпрабавальным тэрмінам два гады («НГ», 19.10.93). На заканчэнне журналіст «Собеседника» дадае, што ў Маскве і Пецярбургу выдаецца не меней чатырох нацысцкіх газет.

Такім чынам мы бачым, што расейскі фашызм імкліва прарастае скрозь цела сучаснага расейскага грамадства, адчуваючы сябе цалкам натуральна. Глеба для яго рыхтуецца і ў вышэйшых навуковых колах Расіі, пра што сведчыць наступны тэзіс з артыкула члена-карэспандэнта Расійскай Акадэміі навук, прафесара, заг. кафедры МДУ Л. В. Мілава: «Полная драматизма политика русских государей по отношению к своим соседям отнюдь не была вызвана какой-то изначально свойственной России особой агрессивностью, а диктовалась неумолимыми тенденциями внутреннего развития, стремлением увеличить и площадь пашен, и людские ресурсы». Артыкул называецца «Природно-климатический фактор и особенности российского исторического процесса» і быў надрукаваны ў сур'ёзным навуковым часопісе «Вопросы истории», № 4—5, 1992. Першае ўражанне ад падобных тэорый: свету ўжо прыходзілася чуць пра недахоп і неабходнасць заваявання «жыццёвай прасторы». Другое: на што ж можна спадзявацца суседзям Расіі ў наш час, калі ўлічыць, што «прыродна-кліматычны фактар» моцна змяніцца не мог? Той самы аўтар адказвае на гэтае пытанне так: «Думается, что и ныне, на исходе XX в. необходимо учитывать роль географического фактора и его многообразных влияний на общество».

Пра паралелі ў сацыяльна-эканамічнай практыцы фашыстаў і камуністаў напісана нямала, дэтальна гэтае пытанне распрацаваў цяперашні прэзідэнт Балгарыі Жэлю Жэлеў у сваёй вядомай кнізе: «Па заканчэнні працэса адзяржаўлення ўласнасці таталітарны рэжым цалкам пабудаваны. Так ствараецца камуністычны варыянт таталітарнага рэжыму, які застаецца і да гэтага дня самай завершанай і самай дасканалай у гісторыі мадэллю таталітарнага рэжыму. Фашыстоўская мадэль—яе часцяком падавалі як антыпод камуністычнай—пасутнасці адрозніваецца толькі тым, што недабудаваны, незавершаны яе эканамічны базіс, у выніку чаго яна менш дасканалая і стабільная... У нацысцкай сістэме абсалютная манаполія партыі не распаўсюджваецца на эканамічны базіс альбо, прынамсі, ахопліва не ўвесь эканамічны базіс. У ёй існуе прыватная ўласнасць, розныя яе віды, што, натуральна, не нараджае імкнення да счаплення, цэласнасці, маналітнасці, хутчэй, наадварот—стварае неаднароднасць, адрозненні, якія ў крытычных сітуацыях лёгка перарастаюць у супярэчнасці. Маналітная надбудова і неаднародны базіс—такая неадпаведнасць унутры фашыстоўскага таталітарнага рэжыму...» (Желев Ж. Фашизм. Тоталитарное государство. М. 1991. С. 11—12. Пераклад з расейскай мой—В. С.).

Але гэта ў асноўным датычыць дзяржаўнай практыкі ўжо пасля захопу ўлады, але сучасная палітычная сітуацыя на Беларусі вымушае звярнуць большую ўвагу да тэорыі, ідэйнай платформы і асноўных накірункаў прапаганды падчас барацьбы за ўладу. У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што на гэтым этапе ў «старых» камуністаў і фашыстаў былі сур'ёзныя адрозненні ў тэарэтычнай базе і прапагандысцкай практыцы, у прыватнасці, у нацыянальным пытанні.

Вось тут варта спыніцца больш падрабязна. У дачыненні да палітычных ідэй і тэорый захоўвае моц дыялектычны закон—час, умовы змяніліся незваротна, і таму камуністычны рух пасля жніўня 1991 г. ужо не мог адрадзіцца ў форме той закасцянелай бюракратычнай структуры, якой быў у найвялікшы перыяд свайго існавання. І таму трэба гаварыць хутчэй не пра ўзнаўленне камуністычнага руху, а пра яго новае нараджэнне (альбо перараджэнне). Якім жа ён нарадзіўся, што ў ідэйным багажы неакамуністаў?

Перш за ўсё трэба адзначыць поўную адсутнасць у камуністычных выданнях любой атэістычнай прапаганды, і ў той жа час гэтыя газеты з гатоўнасцю аддаюць свае старонкі пад матэрыялы, якія ўтрымліваюць прапаганду праваслаўя (канешне ж, расейскага, а не нейкага там аўтакефальнага). У расейскіх газетах ужо зафіксаваны наступны лозунг: «Да здравствует святое православное красное знамя!», а на Беларусі дэпутат Прывалаў у газеце «Мы и время» ў якасці патрэбных беларускаму народу ідэалаў называе ў адным шэрагу «сацыялізм» і «праваслаўе». Прыгадаем таксама пункт з дэкларацыі «кангрэсу» НДБ з патрабаваннем «оградить национальные конфессии от экспансии зарубежных проповедников». Падобны па зместу закон, прыняты былым ВС Расіі, быў адназначна там успрыняты як крок да надання Расейскай праваслаўнай царкве статусу дзяржаўнай рэлігіі. Ужо ў лістападзе 1993 г. у «Звяздзе» (№ 216 ад 23.11.93) з'яўляецца паведамленне карэспандэнта БелаПАН аб прапанове з боку Савета Міністраў дапоўніць дзеючы Закон «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» «...палажэннем, якое рэгламентавала б пытанні запрашэння і дзейнасці замежных місіянераў на тэрыторыі Беларусі, а таксама адказнасць арганізацый, што іх запрашаюць». Прапаноўвалася таксама разгледзець гэты законапраект на бліжэйшай сесіі. У студзені гэтага года «Мы и время» змясціла заяву з падобным патрабаваннем, падпісаную на гэты раз Славянскім Саборам.

Пралетарскі інтэрнацыяналізм, які быў адным з асноўных пастулатаў камунізму, падобна, за час выкарыстання камунізму ў якасці дзяржаўнай ідэалогіі ў адной асобнай краіне ў межах былой Расейскай імперыі паступова памяраў і замяняўся расейскім шавінізмам. Сакрушальны крах пралетарскі інтэрнацыяналізм пацярпеў у гады другой сусветнай вайны, тады Сталін і знайшоў яму замену. Вядома шмат знешніх праяў гэтага працэсу, асабліва яскравых у войску (краіна вавала): выцягваюцца раней забароненыя вайсковыя званні, пагоны, гвардыя, мундзіры. У гістарыяграфіі з'яўляецца славутая тэорыя «меншага зла» (Нечкина М. В. К вопросу о формуле «наименьшее зло». Письмо в редакцию.—Вопросы истории, 1951, № 4, с. 44-48; таксама гл.: Кристенсен С. О. История России XVII в. Обзор исслед. и источников: перв. с дат.—М., 1989, С. 135-136; письма Анны Михайловны Панкратовой—Вопросы истории, 1988, № 11, с. 54-79).

(Заканчэнне на 4-й стар.)




Адзін з галоўных аргументаў хранічна хворых на т. зв. інтэграцыю з Расеяй ёсць пастулат аб непапраўнай беднасці беларускае зямелькі. Для іх адно выратаванне—пад спадніцу вялікае суседкі, і ціхенька, каб не заўважыла і прысутнасці Беларусі побач.

Партыйнае кіраўніцтва былое БССР прыклала нямала намаганняў, ствараючы імідж малодшае (амаль безроднае) «сястрычкі», і самы спусташальны—татальнае прыніжэнне і сціранне знакаў высокае і самабытнае культуры нашае зямлі ў мінулыя (дарасейскія) стагоддзі.

Гавораць, што для многіх еўрапейскіх краінаў ці не асноўным падмуркам бюджэту з'яўляецца замежны турызм. Не дзіўна, бо Еўропа (як стары свет) ёсць для зямное цывілізацыі абетаванным краем, дзе, што ні краіна, то знак непаўторнасці ў адзінстве, што ні зямля, то новая кветка ў чароўным букеце еўрапейскае духоўнасці.

Спустошаныя беларускія гарады, дзе што ні крок—адзнака гвалту і здзеку з гісторыі, забыцця і дэградацыі, мала прывабныя для турызму. Вярнуць нашым гістарычным цэнтрам гістарычную веліч і годнасць—вось адна з асноўных мэтаў Адраджэння, бо, толькі заўважаныя і ўшанаваныя светам, мы вернем і веру, і права на годнае еўрапейскае жыццё.

Але для гэтага, найперш, зямлі нашай, дзяржаве патрэбны нацыянальныя ўрад, прэзідэнт, Вярхоўная Рада з пачуццём паўнацэннасці і дзяржаўнае годнасці. «Пасвіць» жа «малых» ды нямоглых беларусаў выгадна тым, хто дзесяцігоддзі іх пасвіў і пасвіць цяпер, бо ні асаблівага розуму, ні адказнасці тут не трэба. Ці заўважыць той свет, што там робіцца, «пад спадніцаю»? У нашага прасавецкага ўрада далей «рублёвай» ды ім падобных зонаў фантазія не ідзе, тым часам, як пад нагамі ў друзе згасаюць апошнія дыяменты вялікае і непаўторнае ў свеце культуры вялікага некалі народа.

Мо пачнём шукаць між сабою іншых (сваіх, нарэшце) пастыраў, што павядуць нас не пад вялікую спадніцу суседкі, але на ратаванне страчанае еўрапейскае годнасці?...

**Алесь МЕМУС.**

**На малюнку аўтара, зробленым яшчэ ў 1977 годзе ў Пінску, адна з чароўных і дзівам ацалелых кветак беларускага барока—фрагмент Францысканскага кляштара XVI—XVIII ст. ст. Колькі стаптана і знішчана іх на нашай святой зямлі...**

# "ТРЭЦІ РЫМ, ТРЭЦІ РЭЙХ, ТРЭЦЯЯ РУСЬ?"

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**

У мастацтве—кіно пра станоўчага князя (!) Аляксандра Неўскага, а потым і цара (!!) Івана Жахлівага. Вельмі паказальна адлюстраваўся гэты працэс у сістэме ўзнагарод. 29 ліпеня 1942 года з'яўляюцца разам тры ордэны: Аляксандра Неўскага (усё правільна—біў немцаў), Кутузава (дзіўна—біў жа французаў), Суворава (няўжо за Пугачова?). А вось 10 кастрычніка 1943 года ў гэтую кампанію раптам ушчымліваецца Багдан Хмяльніцкі.

У адной з тыповых антысталінскіх кніжак перабудовачнага часу пра гэтыя змены гаворыцца так: «У гады вайны пачалася спецыфічная ідэалагічная адліга ў сталінскім гусце. У публічных выступленнях Сталін апеліраваў да нацыянальных пачуццяў, а не да марксізму. Спасылаўся на імёны нацыянальных герояў—Аляксандра Неўскага, Суворава і Кутузава. У той жа час імёны Маркса і Энгельса амаль зніклі з афіцыйнай прапаганды. Дзяржаўны гімн «Інтэрнацыянал» быў заменены песняй нацыяналістычнага зместу, якая праслаўляла «великую Русь». Спынілася антырэлігійная агітацыя, распусцілі «Общество воинствующих безбожников». Узмацніліся кантакты з царквой для пад'ёму нацыянальнага духу. Меркавалася, што ўвесь гэты дух цалкам можна звесці да расейскага, нягледзячы на шматнацыянальны характар дзяржавы.» (Макаренко В. П. Бюрократия и состалинизм, Ростов-на-Дону, 1989, с. 309. Пераклад з расейскай мой—В. С.).

А ўжо пасля вайны, нягледзячы на тое, што прапаганда ўсё яшчэ бубніла пра інтэрнацыяналізм, расейскі імперыялізм ужо на поўную моц практыкаваўся ў рэальнай палітыцы, і таму зусім не дзіўна выглядае і барацьба з мясцовымі нацыяналістамі, і антыяўрэйская кампанія, і газеты толькі па-расейску ў Заходняй Беларусі.

Неаднаразова прыходзілася сутыкацца з прыкладамі ганьбавання палітычных апанентаў з дапамогай кляйма «фашызму», у прыватнасці, абапіраючыся на факты калабарацыянізму ў гады вайны і на прыярытэт нацыянальнага ў светапоглядзе, камуністычная прапаганда стала выкарыстоўвала гэта кляймо супраць беларускага нацыянальнага руху. У выніку злоўжывання ў палітычнай палеміцы словамі «фашызм», «нацызм», «расізм», «нацыяналізм» самі гэтыя тэрміны набылі агульна-лаянкавы характар, а канкрэтны характар гэтых з'яў забыты.

Між тым нацыяналізм і нацызм карэнным чынам супярэчаць адзін аднаму. У аснове нацыянальных пачуццяў ляжыць гонар за дасягненні сваёй нацыі, за яе культуру, прапаганда сваіх асаблівасцяў гістарычнага развіцця. Але калі нацыяналізм скіраваны на свой народ, то нацызм, фашызм—на чужыя.

Па-другое, асновай нацысцкага светапогляду была не столькі культура нямецкай нацыі, колькі «арыйская раса»—катэгорыя наднацыянальная. «Арыйцамі» нацысты лічылі не выключна прадстаўнікоў свайго народа, не толькі немцаў. У «чырвона-карычневых» у аснове светапогляду ляжыць таксама катэгорыя наднацыянальная—панславянізм, прычым да самой расейскай культуры, якой надаецца выключнае значэнне, яны падыходзяць вельмі пераборліва, яны прапануюць «меньшим братам» не столькі Талстога, Дабралюбава, Бердзяева, Герцэна ды Сахарава, колькі Бялова, Распуціна, «Эдичку» Лімонава ды Шафарэвіча.

Характэрна, што ўкраінскія фашысты з УНСА (Украінскай нацыянальнай самаабароны), узброенага філіяла Украінскай нацыянальнай асамблеі, таксама кладуць у аснову сваёй ідэалогіі панславянізм—маўляў, толькі ўкраінцы здольныя аб'яднаць вакол сябе ўсе славянскія народы ў мэтах дасягнення сусветнага панавання. (Романюк С. Проводник берет в рублях...// Комс. правда, № 48, 16.03.93). І цалкам натуральным з'яўляецца тое, што ў арганізаванай УНА канферэнцыі ў снежні мінулага года ўзялі ўдзел народна-сацыяльная партыя з Пецярбурга (гл. вышэй) і «Славянскі сабор «Белая Русь» (Касцень А. Час Мазепы ці Хмяльніцкага?// «Звязда», № 12, 20.01.94).

Ёсць яшчэ адна роднасная рыса—антысемітызм. Болей таго, прасочваецца непасрэдная ўзаемная пераемнасць паміж расейскім і нямецкім фашызмам. Як піша ангельскі навуковец Норман Кон, самую вядомую антысеміцкую фальшыўку пад назвай «Протоколы сионских мудрецов» у Нямеччыну завезлі два былых афіцэры, у мінулым—актыўныя члены чарнасоценных арганізацый «Союз русского народа» і «Союз Михаила Архангела» П. М. Шабельскі-Борк і Ф. В. Вінберг, а галоўным прапагандыстам гэтай атруты стаў афіцыйны нацысцкі ідэолаг Альфрэд Розэнберг. Ён нарадзіўся ў Рэвелі (Таліне), быў расейскім падданым, вывучаў архітэктуру ў Маскве, а ў 1918 годзе далучыўся да адыходзячага нямецкага войска (па іншых крыніцах ён удзельнічаў у паходзе Юдзеніча на Петраград).

Нарабіўшы столькі ліха, гэтая атрута павярталася ў Расію, распаўзлася і па нашай зямлі. Дастаткова ўважліва пачытаць расейскія газеты, якія распаўсюджваюцца на зборышчах Славянскага Сабора, ці любы нумар «двух единственных в Беларуси левых газет» (па вызначэнню НДБ), каб выразна адчуць характэрны «душок». Праўда, пасля таго, як маскоўскія паплечнікі «засвяціліся» 3 кастрычніка з характэрнымі воклічамі і лозунгамі, нашы камуністы ў спецыяльным звароце ў газеце «МиВ» (відаць, з перапуду) прапанавалі лічыць усіх сваіх прыхільнікаў, якія надумаюцца ўзняць антысеміцкі лозунг, правакатарамі. Затое другая «левая» газета «Политика. Позиция. Прогноз» не ўтрымалася, каб не падрыхтаваць дакладна да падзеі агульнарэспубліканскага маштабу і беспрэцэдэнтнага гістарычнага значэння—Тыдня памяці ахвяр генацыду супраць яўрэяў «Кадыш—жальба», які пачаўся 19 кастрычніка, нумара газеты з адкрыта антысеміцкім артыкулам В. Е. Казлякова («ППП», выпуск № 9, сентябрь-октябрь 1993, **подписано в печать—15.10, выход в свет—18.10**). Падкрэслена мной—В. С.//.

Прычынай гэткага, на першы погляд, парадаксальнага паяднання на глебе антысемітызму можа быць простая кан'юнктура. Калі неакамуністы зараз вядуць размову пра «раз'яднанне спрадвеку адзінай дзяржавы», маўляў, рэжуць па-жывому адзіны арганізм, то ўзнікае заканамернае пытанне—ці не бальшавікі стварылі ў свой час Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, а потым і СССР, заклаўшы ў саюзную канстытуцыю права на свабодны выхад з Саюза? Адказаць на гэта пытанне і памірыцца з прарасейскімі вялікадзяржаўнікамі неакамуністам вельмі цяжка без «зламыслых жыдамасонаў». Але супадзенне поглядаў можа быць больш глыбокім і арганічным. Паступова мы падышлі да, напэўна, самай галоўнай прычыны актывізацыі антыбеларускіх сіл. Самая цяжкая перамена ў свядомасці, якую ўсім нам без выключэння прыйдзецца перажыць—гэта пазбаўленне ад стэрэатыпу мыслення грамадзяніна вялікай дзяржавы—маўляў, хай суседзі не паважаюць і не любяць, дык хоць прымусім іх баяцца. Гэтая трансфармацыя, падобна, яшчэ не завяршылася ў свядомасці нават праціўнікаў любой імперыі. Ганарыцца Бацькаўшчынай, якой ужо не баяцца ў свеце, але якую яшчэ няма за што паважаць, сапраўды, дастаткова цяжка. Пакуль што гэтая трансфармацыя паступова адбываецца, дзякуючы разумнай палітыцы з боку нашых суседзяў, і яе пасяховасць у вялікай ступені гэтай разумнай пазіцыяй і абумоўлена (але ўжо адчуваюцца змены на ўсходзе). А павагу ў свеце мы ўсё яшчэ маем, так бы мовіць, авансам.

Менавіта няздольнасць прымірыцца са статусам грамадзяніна новай невялікай еўрапейскай краіны, якая нікога не палохае і якой яшчэ толькі прыйдзецца зарабляць сабе аўтарытэт, ляжыць у аснове настальгіі па Савецкаму Саюзу і лучыць у адных шэрагах, умоўна кажучы, ленінцаў з дзенікенцамі. І ў гэтым—самая небяспечная гістарычная паралель. Даследчыкі адзначаюць, што падобны крызіс свядомасці ў свой час моцна паспрыяў прыходу да ўлады Гітлера, а нацыянал-сацыялізм уяўляў сабой прыкрытую антыкапіталістычнай, антыбуржуазнай і антысеміцкай дэмагогіяй вялікадзяржаўную ідэалогію. «Фашизм нельзя понять без империализма—такова простая, но слишком часто упускаемая из виду истина» (Опитц Р. Фашизм и неофашизм. М.1988. С.22).

Вельмі цікавыя для параўнання працытаваныя Норманам Конам разважанні Адольфа Гітлера: «Разумеется, евреи изобрели эту экономическую систему постоянных взлетов и падений, которую мы называем капитализмом,—это гениальное изобретение с искусным, но все же простым, механизмом саморегулирования...

Экономическая система наших дней—это творение евреев. Она находится под их исключительным контролем.—Это—сверхгосударство, установленное ими над всеми государствами мира во всем блеске и славе. Но теперь мы бросили им вызов нашей теорией перманентной революции...» (Кон Н. Благословение на генодиц: миф о всемирном заговоре евреев и «Протоколах сиониских мудрецов». М. 1990, с. 149).

Такім чынам, у дадзеным выпадку можна з поўным правам гаварыць пра папулізм—свядомае выкарыстанне ў сваіх мэтах шырока распаўсюджанага ў грамадстве памылковага погляду. Самі цалкам усведамляючы, як людзі адукаваныя і інфармаваныя, аб'ектыўную немагчымасць узнаўлення Савецкага Саюза ў той старой, камуністычнай форме, такой любай пенсіянерам і замучаным цэнамі былым савецкім людзям, палітыкі-папулісты, тым не меней, вабяць іх за сабой па шляху, які павінен прывесці—і гэта яны таксама цалкам усведамляюць—ужо да сапраўднай імперыі.

Так што тым ветэранам, якім нейкім цудам удалося захаваць у свежасці ідэалы шматгадовай даўнасці, таксама як і маладым, што натхніліся забароненымі раней працамі ідэолагаў расейскага камунізму, якіх шмат навыцягвалі са спецсховішчаў у першыя гады перабудовы, перш чым аддаваць неакамуністам свой голас, а то і ўступаць у іхнія арганізацыі, варта было б прыглядзецца, пагаварыць і паразважаць.

Якія трапныя азначэнні часам з'яўляюцца ў журналістаў—"чырвона-карычневыя"!!! Толькі адзначым, што чырвоны колер у іх прысутнічае ўжо толькі ў якасці вонкавай прыкметы. Кажуць, у Маскве Зюганаў выдаў кнігу пад назвай «Держава», дзе няма ніводнага марксісцкага тэрміна...

**ВІКТАР СЦЯПАНАЎ,**
г. Ворша.




**ЗАСНАВАЛЬНІК: Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары"**

**Галоўны рэдактар Барыс Хамайда**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.

ТЭЛЕФОНЫ:
37-28-44 — рэдактар;
37-35-06 — бухгалтэрыя,





Газета набрана ў камп'ютэрным цэнтры абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна (г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6)

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па чацвяргах**

Друк—афсетны
Аб'ём—друк. арк.
Фармат А3
Тыраж—1800 экз.
**Кошт 50 рублёў**
Падпісана да друку 23.03.94 г. у 16.00